
VERTIGO
WILLINGHAM AKINS PALMIOTTI
FABLES™
OCT
NO.28
featuring DOG COMPANY &
BIGBY WOLF
250¢
385 can
MOVE OUT, YOU DOGS!
U.S.
SUGGESTED FOR MATURE READERS
vertigocomics.com
ПАДАННІ #28
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY

ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 5















*ШЭЛБІ ФУТ – АМЕРЫКАНСКІ ПІСЬМЕННІК І ВЯДОМЫ ГІСТОРЫК, ЯКІ ВЫВУЧАЎ ПЕРЫЯД ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ Ў ЗША.



26 ЛІПЕНЯ, 1944. ЛЕДЗЬ БОЛЕЙ ЧЫМ ПРАЗ МЕСЯЦ ПАДАЎЛЕННЯ НА БАКАЖАХ У НАРМАНДЫІ, ЯНЫ АБЯЦАЛІ НАМ ДВА ПОЎНЫХ ТЫДНІ ПА-ЗА ЛІНІЯЙ ФРОНТУ.
АЛЕ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ДЗЁН НАШАГА МІРА І СУПАКОЮ ЯНЫ ЗАБРАЛІ ВОСЕМ НЯЎДАЧЛІВЫХ ВЫРАДКАЎ З САБАЧАГА АТРАДА - 3-ГА З 605 - ДЛЯ СПЕЦЫЯЛЬНАЙ МІСІІ.
АПЕРАЦЫЯ "ПАКАЁЎКА".
НЕ СПРАБУЙЦЕ ШТО-НЕБУДЗЬ ШУКАЦЬ ПРА ЯЕ. НІЯКІХ ЗАПІСАЎ НЕ ЗАХАВАЛАСЯ. АФІЦЫЙНА ЯЕ НІКОЛІ НЕ БЫЛО.
ПРАЗ ЧАТЫРЫ ДНІ МЫ ВЫСАДЗІЛІСЯ НА ВУГАЛЬНА-ЧОРНЫХ ПАРАШУТАХ, АМАЛЬ НА ЗАДНІМ ДВАРЫ ГЕР ФЮРАРА.
DOG COMPANY
War Stories, Part One
BILL WILLINGHAM writer/creator
TONY AKINS penciller
JIMMY PALMIOTTI inker
DANIEL VOZZO color/seps
TODD KLEIN letters
JAMES JEAN cover art
MARIAH HUEHNER asst. editor
SHELLY BOND editor




КАМАНДАВАЎ НАМІ ЛЭЙТЭНАНТ РОНАЛЬД ЛЕВІН. Я НЯ ВЕЛЬМІ ДОБРА ВЕДАЎ ЯГО, ТАМУ ШТО ЁН БЫЎ ЛІДАРАМ 3-ГА ЎЗВОДА. АЛЕ Ў ЯГО БЫЛА РЭПУТАЦЫЯ ДОБРАГА ХЛОПЦА.
ТРЫМАЙ-ЦЕСЯ ПО-БАЧ.
НЯ ПОЎНЫ ЛАЙНЮК, ЯК ЛЕЙТЭНАНТ МАЙГО ЎЗВОДА ХІЛІНГ, ЯКО-МУ ВАРТА БЫЛО ДАЦЬ ІМЕННЫ ТРУПНЫ МЯШОК.
СТАРЭЙШЫ СЯРЖАНТ МАЙКЛ СУПІНСКІ БЫЎ ЛЕПШЫМ СЯР-ЖАНТАМ НАШАГА АТРАДА. ЗАЎСЁДЫ БЫЎ ЗЛАСЛІВЫМ ПЕЧАНЫМ ГАДАМ. ЁН НІКОЛІ МНЕ НЕ ПАДАБАЎСЯ.
ТЫ **ЧУЎ** ВАШАГА ЛЕЙТЭНАНТА. ЁН ЖАДАЕ, КАБ ТЫ БЫЎ ТУТ. ДЫК ЧАМУ ЦЯБЕ ТУТ НЯМА, ЗІЛМЕР?
ЧОРТ, ДЫ Я ЯГО НЕНАВІДЗЕЎ.
Я ТРОХІ ЗАБЛУКАЎ, СЯРЖАНТ.
АЛЕ Я РАДЫ, ШТО ЯГО АДПРАВІЛІ З НАМІ.
РАДАВЫ ЗІЛМЕР БЫЎ З 2-ГА ЎЗВОДА. ЁН БЫЎ ПАДОБНЫ НА БІБЛІЯТЭКАРА...
TURN TO UNLOCK
...АЛЕ Я НІКОЛІ НЯ БАЧЫЎ НІКОГА, ХТО Б ТАК ВЕСЯЛІЎСЯ ПАСЛЯ ПЕРШАГА КУФЛЯ ПІВА.
U.S.
БЕЗ БРАХНІ, АДНОЙЧЫ ЁН НАВАТ ПАБІЎСЯ З ТАЙСАМ.
Я **САЧУ** ЗА ТАБОЙ, РАДАВЫ.
ШТО ЗАЎСЁДЫ ПРЫЕМНА, СЯРЖАНТ.
РАДАВЫ ПЕРШАГА КЛАСА, ДЖОЎІ ТАЙС, 4-Ы ЎЗВОД. ЖЫВАЯ КРЭПАСЦЬ. ЁН БЫЎ НАШЫМ КУЛЯМЁТЧЫКАМ.
КАПРАЛ ДЖОН БЭЙКЕР, 3-І ЎЗВОД. НАШ МЕДЫК. МЫ КЛІКАЛІ ЯГО РАЗАК, ПА ПРЫЧЫНАХ, ЯКІЯ ВАМ ЦІ НАЎРАД ТРЭБА ВЕДАЦЬ.



МОЙ ПРЫЯЦЕЛЬ, РАДАВЫ ДЖЭЙМС ШМАХТЭНБЕРГ, БЫЎ ЯШЧЭ АДНЫМ З 1-ГА ЎЗВОДА. МЫ КЛІКАЛІ ЯГО АЛФАВІТ ПА ЗРАЗУМЕЛАЙ ПРЫЧЫНЕ.
ДОБРАЯ НОЧКА. НІКОГА.
ЁН БЫЎ НАШЫМ СНАЙПЕРАМ І МОГ ТРАПІЦЬ МУСЕ Ў ГАК З 300 МЕТРАЎ.
ГЭТА КАМПЕНСАВАЛА МАЮ НЯЗДОЛЬНАСЦЬ ТРАПІЦЬ З ДВУХ КРОКАЎ НАВАТ У СВІРАН.
РАДАВЫ ШОН ДАФІ. ЭСКВАЙР, 1-Ы ЎЗВОД.
ЯК ТАКІ БЕСКАРЫСНЫ БАКЛАН ЯК **ТЫ** БЫЎ ВЫБРАНЫ ДЛЯ ГЭТАЙ МІСІІ, ДАФІ?
БЕСКАРЫСНЫ, АЛЕ **ПРЫВАБНЫ**, СЯРЖАНТ. МАБЫЦЬ, ІМ НЕХТА ПАТРЭБНЫ ДЛЯ ВЫЦЯГВАННЯ ВАЖНЫХ ЗВЕСТАК З СІМПАТЫЧНЕНЬКІХ **ФРОЙЛЯЙН**.
І НАРЭШЦЕ, ТАЯМНІЧЫ СЯРЖАНТ ХАРП - АДЗІНЫ НЕ З САБАЧАГА АТРАДА. НАВАТ НЕ З 101-ГА ПАВЕТРАНА-ДЭСАНТНАГА. АЛЕ ЁН ВЕДАЎ, ЯК СКАКАЦЬ.
ЗАБІЛІ ЗЯПЫ І **СЛУХАЕМ**!
МЫ ЎПЕРШЫНЮ СУСТРЭЛІ ЯГО ПРЫ ПЕРАЛЁЦЕ СЮДЫ.
ХОЦЬ **У ГЭТЫ РАЗ** ЛЁТЧЫКІ ВЫСАДЗІЛІ НАС ТУДЫ, КУДЫ І ТРЭБА.
АМАЛЬ АДРАЗУ СТАЛА ЗРАЗУМЕЛА, ШТО СЯРЖАНТУ ЁН НЕ ПАДАБАЕЦЦА. ЁН ДАЎ МЯНУШКУ ХАРПУ "ЧАЛАВЕК З ЗОНЫ Ф", АЛЕ АДМОВІЎСЯ РАСТЛУМАЧЫЦЬ, ШТО ГЭТА ЗНАЧЫЦЬ.
U.S.
АЛЕ НАШАЙ ЗАДАЧАЙ БЫЛО ДАСТАВІЦЬ ЯГО ТУДЫ, КУДЫ Б ЁН НІ ПАЖАДАЎ.
**ГЭТА** ЧОРТАВЫ ЦУД.
ПРЫТАРМАЗІ, ЗІЛМЕР.
Burgstrasse
ЗБЯРЫЦЕ АМУНІЦЫЮ І ПАДРЫХТОЎВАЙЦЕСЯ ІСЦІ. У ВАС ЁСЦЬ ПЯЦЬ ХВІЛІН, КАБ ПАЗАКОПВАЦЬ УСЁ, ШТО МЫ НЯ ВОЗЬМЕМ З САБОЙ. НАМ ТРЭБА ЗМЯНІЦЬ МЕСЦА, НА ВЫПАДАК, КАЛІ ХТОСЬЦІ **ЎБАЧЫЎ** НАС.
МІНІМУМ СВЯТЛА І ШУМУ, БУДЗЬЦЕ ЭФЕКТЫЎНЫМІ.
DROP ZONE
У ПЕРШУЮ Ж НОЧ У НАС БЫЛО ЧАТЫРЫ ГАДЗІНЫ НА ТОЕ, КАБ ПРАЙСЦІ СЕМ КІЛАМЕТРАЎ - НАЙЛЯГЧЭЙШАЯ ПРАГУЛКА З МОМАНТУ ПАЧАТКУ МАЁЙ СЛУЖБЫ.
МЫ МАГЛІ ГУЛЯЦЬ. ЧОРТ, ДЫ МЫ Б МАГЛІ Б ПРАЙСЦІ ЎВЕСЬ ШЛЯХ ПАЎЗКОМ.
СЯРЖАН ХАРП ВЁЎ НАС.
ШТОСЬЦІ Ў ІМ ПУЖАЛА ІРЛАНДСКАГА П'ЯНЮГУ ЎНУТРЫ МЯНЕ - ТОЕ, ЯК ЁН МОЖА ІСЦІ ПА ЦЁСНЫМ ГУШЧАРЫ БЫЦЦАМ ГЭТА БЫЎ ШЫРОКІ ПУСТЫ БУЛЬВАР У САМЫМ ЯРКІМ ДЗЁННЫМ СВЯТЛЕ.
А ЯШЧЭ ЁН БЫЎ АСЦЯРОЖНЫМ.
ЁН СІГНАЛІЎ ПРА ПРЫПЫНАК, ЯК ТОЛЬКІ ЗАЎВАЖВАЎ НА ДАРОЗЕ ГАЛІНКУ, НА ЯКУЮ МЫ НЕ ПАВІННЫ БЫЛІ НАСТУПАЦЬ.


МЫ ПРЫБЫЛІ Ў ЛЯСІСТАЕ МЕСЦА НА ЎЗГОРКАХ, ЯКОЕ ВЫГЛЯДАЛА ІДЭНТЫЧНА КОЖНАМУ ІНШАМУ МЕСЦУ, ПРАЗ ЯКОЕ МЫ ЦЯГНУЛІСЯ ЎСЮ НОЧ. ШТО РАБІЛА ГЭТА МЕСЦА ТАКІМ АСАБЛІВЫМ, Я НЯ ВЕДАЎ.
Я ЛІЧУ, ГЭТА І КВАЛІФІКУЕЦЦА ЯК "БЯСПЕЧНАЕ МЕСЦА", ЛЕЙТЭНАНТ, ВЫ МОЖАЦЕ **РАЗГАРНУЦЬ** ЗАГАДЫ.
ЗДЫМІ СВАЁ ПОНЧА, СЯРЖАНТ СУПІНСКІ. НАМ ПАТРЭБНА СВЯТЛО.
СЯРЖАНТ РАЗМЯСЦІЎ ТРОХ З НАС ПА ПЕРЫМЕТРЫ, А АСТАТНІМ ЗАГАДАЎ СЕСЦІ І ЗАБІЦЬ ЗЯПУ.
ЯНЫ ЛЯСНУЛІСЯ?
ГЭТА **ЖАРТ**?
БАЮСЯ, ШТО НЕ.
ДАСТАТКОВА ЧАСУ, КАБ ВЫВУЧЫЦЬ ПАДРАБЯЗНАСЦІ. МЫ ПРАБУДЗЕМ ТУТ УСЮ НОЧ.
МАГЧЫМА І ЗАЎТРАШНЮЮ... ЦІ ДАЎЖЭЙ.
ЧАМУ? ЗДАЕЦЦА ДАСТАТКОВА ДАЛЁКА, АЛЕ...
МЫ ПАЧАКАЕМ КАГОСЬЦІ – АПОШНЯГА ЧЛЕНА НАШАГА АТРАДА.
З ГЭТАГА МОМАНТУ – ЁН НАШ **ГІД**.


У **МАІХ** ЗАГАДАХ НІЧОГА НЕ КАЗАЛАСЯ ПРА ДЗЯВЯТАГА ЧАЛАВЕКА.
НЕ, ЁН **ПА-ЗА** ПАПЕРАМІ – СЯБР, З ЯКІМ Я ЎЖО ПРАЦАВАЎ.
РАЗАМ З ІМ ГЭТЫ ДУРНЫ ТРУК МАЕ **БОЛЕЙ** ШАНЦАЎ НА ПОСПЕХ.
БЕЗ ЯГО Я Б НАВАТ І НЕ **СПРАБАВАЎ**.
МНЕ НЕ ПАДАБАЕЦЦА ТАКОЕ РЭДКАЕ ЛАЙНО, ЯК ГЭТА, СЯРЖАНТ.
ПРЫ ЎСЁЙ ПАВАЗЕ, СЭР, КАГО **ХВАЛЮЕ**?
ВЫ КАМАНДУЕЦЕ СВАІМІ **ЛЮДЗЬМІ**, А Я КАМАНДУЮ **ВАМІ**. МАГЧЫМА ВАМ ТРЭБА ПЕРАЧЫТАЦЬ ЗАГАДЫ.
НЕ, ЯНЫ БЫЛІ ДАСТАТКОВА ЗРАЗУМЕЛЫЯ... **СЯРЖАНТ** ХАРП.
ДОБРА, ШТО МЫ РАЗУМЕЕМ АДЗІН АДНАГО... СЭР.


ВЕДАЕЦЕ, ЧЫМ МЫ ЗАЙМАЛІСЯ НАСТУПНЫЯ ТРЫ ДНІ? НІЧЫМ. НІЧЫМ, АКРАМЯ ТАГО, ЯК СЯДЗЕЛІ НА СВАІХ ТЛУСТЫХ ДУПАХ У ЛЕСЕ, ЕЛІ ХАЛОДНЫЯ ПАЙКІ І НЕ ВЫСОЎВАЛІСЯ.
ГЭТА БЫЛО ПАДОБНА НА КАНІКУЛЫ. НІКОГА, АКРАМЯ НАС, А ПТУШЫНЫ СПЕЎ БЫЎ САМЫМ ГРОМКІМ ГУКАМ, ЯКІ МЫ ЧУЛІ.
БЫЛО ЦЁПЛА, А ЛЕС ПАХ БЫЦЦАМ БУДУАР САМАДАЙКІ – ПЕРСІК, ВІШНЯ, МІНДАЛЬ, МАГНОЛІІ І ФАРЗІЦЫІ.
БОЖА, БЕРАЖЫ ГЕНЕРАЛА ДЗІКА ЦІ НЕЙКАГА **МАРКІТУНА** З ТЫЛУ, ЯКІ ЗНАЙШОЎ МЯНЕ ДЛЯ ГЭТАЙ ПРАЦЫ.
КАЛІ Б Я ВЕДАЎ, ШТО МІСІІ Ў ТЫЛЕ ВОРАГА ВОСЬ ТАКІЯ, Я Б **ДАЎНО** СТАЎ ДОБРААХВОТНІКАМ.
ПОТЫМ, ПАСЯРОД ЧАЦВЁРТАГА ДНЯ З'ЯВІЎСЯ НЕХТА Ў ЦЫВІЛЬНЫМ.
БОЗЛІ!
ПРАБАЧ, Я СПАЗНІЎСЯ, ХАРП. Я ПАВІНЕН БЫЎ АДЦЯГНУЦЬ НЕКАЛЬКІ ЦІКАЎНЫХ **ПАТРУЛЁЎ** АД ГЭТАГА МЕСЦА.
ЦІШЭЙ. ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ЦІШЫНЁЙ?
НЕ ХВАЛЮЙСЯ, СЯРЖАНТ. ПАБЛІЗУ НІКОГА НЯМА.
ТЫ НЯ МОЖАШ ВЕДАЦЬ ГЭТА ДАКЛАДНА.
УВОГУЛЕ МОЖА. КАЛІ **БОЗЛІ** ТАК КАЖА...
...ТО МОЖНА БАЛБАТАЦЬ, ГАРЛАПАНІЦЬ І СПЯВАЦЬ **ЁДЛЬ**.


У ТУЮ НОЧ НАС ВЁЎ ХЛОПЕЦ У ЦЫВІЛЬНЫМ.
<ДЫК ШТО БЫЛО ПАСЛЯ СПРАЎ У ВАЛУРДЗЕ?>
<ЧАСУ НЕ БЫЛО. А ШКАДА. ЯНА БЫЛА МІЛКАЙ.>
<ТЫ ВЯРНУЎСЯ І ВЫКАНАЎ АБЯЦАННЕ ПЕРАД ФЕРМЕРКАЙ, ЯКАЯ ХАВАЛА НАС?>
<НЕ ЗУСІМ НА **МОЙ** ГУСТ.>
ГАЛОЎНЫМ ЧЫНАМ ЁН БАЛБАТАЎ З ХАРПАМ НА ІДЭАЛЬНАЙ НЯМЕЦКАЙ МОВЕ.
<Я БЫЎ ПАТРЭБНЫ ДАЛЕСУ Ў ЛЕЙПЦЫГЕ, КАБ ЛІКВІДАВАЦЬ ФЕЛЬДМАРШАЛА РЭЙНХАЎ.>
<ТАДЫ ЎПАЎ САМАЛЁТ? >
ЧАСАМ ЁН ПРЫМУШАЎ УСІХ ЗАБІЦЬ ЗЯПУ – ТАДЫ НАМ ТРЭБА БЫЛО ПАВОДЗІЦЬ СЯБЕ ВЕЛЬМІ ЦІХА.
ЁН РУХАЎСЯ ТОЛЬКІ НОЧЧУ І ТРЫМАЎСЯ ГЛЫБОКАГА ЛЕСУ НА АДЭНВАЛЬДСКІХ УЗГОРКАХ, ШЫРОКА АГІНАЮЧЫ ЎСЕ ВЁСКІ, ФЕРМЫ І ВАЕННЫЯ ПАСТЫ ФРЫЦАЎ.
НАШ ГІД ЗАЎСЁДЫ ВЕДАЎ, ДЗЕ ЯНЫ БЫЛІ.



У НАС БЫЎ ЗАГАД ПАЗБЯГАЦЬ КАНТАКТАЎ З ВОРАГАМ.
ДЗЯКУЙ БОГУ.
І ВЕДАЕЦЕ, ШТО БЫЛО ЛЕПШ ЗА ЎСЁ? КОЖНУЮ РАНІЦУ, КАЛІ МЫ СПЫНЯЛІСЯ НА ДЗЕНЬ, ЦЫВІЛЬНЫ ЗНІКАЎ І ВЯРТАЎСЯ З РОЗНЫМ СКАРБАМ.
ЯК ВЫ ЎСЁ ГЭТА НАБЫЛІ БЯЗ НАС, МІСТЭР ВОЎК?
ХРАБУСТКІЯ КУРАНЯТЫ, СВІНІНА, МЯСНЫЯ ПІРАГІ, ГАРАЧЫЯ САСІСКІ, ХЛЕБ І ВАРАНЫЯ ЯЙКІ. А АДНОЙЧЫ НАВАТ ПІВА.
МЯСЦОВЫЯ ЛІЧАЦЬ, ШТО Я КАНФІСКУЮ ГЭТА ДЛЯ БОСА ГЕСТАПА.
ТОЛЬКІ ЕЖА І НІЯКІХ БОЕК.
І ЧАМУ НЕ ЎСЕ ВОЙНЫ ТАКІЯ?
ТРЭБА БЫЦЬ ДАСТАТКОВА АДВАЖНЫМ, КАБ ПРАВЕРЫЦЬ, КУДЫ АДПРАЎЛЯЕЦЦА ІХ ЕЖА НА САМОЙ СПРАВЕ.




АДНОЙЧЫ НАШ ПРАВАДНІК ПРАВЁЎ НАС ПРАЗ ВАРОЖЫ БЛОКПОСТ. НІЯКАЙ НЕБЯСПЕКІ НЕ БЫЛО. ЯНЫ ЎСЕ БЫЛІ МЁРТВЫЯ.
ВАМ ТРЭБА ПРЫНЯЦЬ ПАСТАНОВУ, ЛЕЙТЭНАНТ.
МЫ З БОЗЛІ ПАЗЫЧЫМ ПАРАЧКУ ЎНІФОРМ.
ГЭТА БЫЛО САМАЕ ЖУДАСНАЕ, ШТО Я БАЧЫЎ У СВАІМ ЖЫЦЦІ.
БЫЦЦАМ ІХ АТАКАВАЛІ ДЗІКІЯ ЗВЯРЫ, ПАКУЛЬ ЯНЫ СПАЛІ.
ВЫ МОЖАЦЕ ЗРАБІЦЬ ТОЕ Ж САМАЕ. У ГЭТЫМ ВЫПАДКУ СТРАЛЯНІНА НЯНАДАЎГА АДКЛАДЗЕЦЦА.
АЛЕ ТАК ЦІ ІНАКШ, ДА ТАГО, ЯК УСЁ СКОНЧЫЦЦА, ТАМ БУДЗЕ БОЙКА.
І КАЛІ НАС ЗЛОВЯЦЬ У ГЭТАЙ ФОРМЕ.
НІЯКАЙ ТУРМЫ...
НАС ПРОСТА РАССТРАЛЯЮЦЬ ЯК ШПІЁНАЎ.
САПРАЎДЫ.
Я ЛІЧУ, МЫ ЗАСТАНЕМСЯ Ў СВАЁЙ ФОРМЕ.


МЫ ДАСЯГНУЛІ НАШАЙ МЭТЫ Ў ГАРАХ І НАЗІРАЛІ ЗА ВЁСКАЙ ЕБЕРСТАХД.
ВОСЬ ЯНО, ХЛОПЦЫ.
ГЭТЫ ЗАМАК?
МЫ З БОЗЛІ ПАШПІЁНІМ ПАРУ ГАДЗІН, А ПОТЫМ ПАДАРВЕМ ГЭТА МЕСЦА ДА ЛІХАМАТАРЫ.
ВАША СПРАВА ВЕЛЬМІ ПРОСТАЯ – ПРАВЕСЦІ НАС ТУДЫ І ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ПРЫКРЫЦЦЁ, ПАКУЛЬ МЫ ТАМ.
НА ЖАЛЬ, ЗАМАК АБКРУЖАНЫ МНОСТВАМ ЦЯЖКАЙ ЗБРОІ, І ЯК МІНІМУМ АДНОЙ РОТАЙ МАТАЦЫКЛЕТНЫХ ВОЙСКАЎ СС, – МАГЧЫМА ДЗВЮМА.
КУРВІСКА.
НЕ ПАНІКУЙ, РАДАВЫ. МЫ ЗНАЙШЛІ СПОСАБ, ЯК АБЫЙСЦІ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ ВОЙСКАЎ.
ВОСЬ ЧАМУ МЫ ТУТ, НА ГЭТЫМ УЗГОРКУ, А НЕ НА ТЫМ.


ДА МІНУЛАГА ТЫДНЯ ГЭТА БЫЎ АДЧЫНЕНЫ ПРАЦВІТАЮЧЫ ГАТЭЛЬ. АЛЕ НЕЙКІ П'ЯНЮГА НЯ ЎМЕЎ АБЫХОДЗІЦЦА З ЗАПАЛКАМІ.
ТЫ СПАЛІЎ ЯГО?
УПС.
НАВОШТА?
ДЛЯ ТАГО, КАБ УСЕ ЯГО ПАКІНУЛІ, А МЫ АТРЫМАЛІ НЕАБМЕЖАВАНЫ ДОСТУП У СУТАРЭННЕ.
ЗА МНОЙ, СПАДАРЫ. ГЛЯДЗІЦЕ ПАД НОГІ.
Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО НАШЫМ КАНІКУЛАМ КАНЕЦ, КАЛІ ЦЫВІЛЬНЫ ПРЫМУСІЎ НАС ПРАЦАВАЦЬ ЖАЛЕЗКАМІ І КІРКАМІ.
ДОБРА АТРЫМЛІВАЕЦЦА, ХЛОПЦЫ.
САКРЭТНЫ ПРАХОД?
СТАРЫ ТУНЭЛЬ ДЛЯ ЎЦЁКАЎ З ТАГО ЗАМКА ПРАЗ ДАРОГУ. ПРА ЯГО НЕ ЗАСТАЛАСЯ ЗАПІСАЎ.


САЛДАТЫ НЯ ВЕДАЮЦЬ ПРА ЯГО. НАВАТ УЛАДАРЫ "ГАСТХАЎСА" НЯ ВЕДАЛІ ПРА ЯГО. ВАМ ПАВІННА БЫЦЬ **НЕКАЛЬКІ СОТНЯЎ ГАДОЎ**, КАБ ВЕДАЦЬ ПРА ЯГО.
ШТО **НАВОДЗІЦЬ** НА ПЫТАННЕ: АДКУЛЬ ТЫ ВЕДАЕШ?
ШШШШШШ.
ВЕЛЬМІ **САКРЭТНА**.
ТЫМ ВЕЧАРАМ МЫ ЎВАЙШЛІ Ў ЦЕСНЫ ЦЁМНЫ ТУНЭЛЬ. ЯШЧЭ АДНА ЧАСТКА СУІЦЫДАЛЬНАЙ МІСІІ.
АСЦЯРОЖНЕЙ, ХЛОПЦЫ. ТУТ НЕ ПРАПХНУЦЦА.
ДАСТАТКОВА **ЎТУЛЬНА**, КАБ БЫЦЬ НАШАЙ БРАТЭРСКАЙ МАГІЛАЙ?
ТУНЭЛЬ ЦЯГНУЎСЯ КАЛЯ ДЗВЮХ МІЛЬ І СКОНЧЫЎСЯ ТАКІМІ Ж ЦАРСКІМІ ДЗВЯРАМІ, ЯК ТЫЯ, ПРАЗ ЯКІЯ МЫ ЎВАЙШЛІ.
ШТО ЦЯПЕР, СЭР?
ЦЯПЕР МЫ АДСЕДЗІМСЯ ТУТ І ПАЧАКАЕМ ДА ПОЎНАЧЫ.
БОЖА, БОЗЛІ, ТЫ ТОЛЬКІ ПАБРЫЎСЯ, А Ў ЦЯБЕ **ЎЖО** ШЧАЦІННЕ.
ТРОХ РАЗОЎ У ДЗЕНЬ **НЕДАСТАТКОВА**.
ТАДЫ ПЕРАКАНАЙСЯ, ШТО ПАБРЫЎСЯ, ПЕРШ ЧЫМ ІСЦІ. ПАСПРАБУЙ ВЫ-ГЛЯДАЦЬ ЯК **САПРАЎДНЫ** АФІЦЭР ФРЫЦАЎ.


ЧАС ЦЯГНУЎСЯ ДАСТАТКОВА ПАВОЛЬНА, КАБ СТРАХ ЗАСЕЎ У НАС У КІШКАХ.
ЧАМУ ГЭТА МЕСЦА ТАКОЕ **ВАРТАЕ**, СЯРЖАНТ ХАРП?
АФІЦЫЙНЫ АДКАЗ: ТАБЕ **НЯ ТРЭБА** ГЭТА ВЕДАЦЬ, РАДАВЫ.
САПРАЎДНЫ АДКАЗ: **МЫ САМІ НЯ ВЕДАЕМ**.
ЯК КАЖУЦЬ ХЛОПЦЫ З РАЗВЕДКІ, НАЦЫСТЫ РАСПРАЦОЎВАЮЦЬ НЕЙКУЮ САКРЭТНУЮ ЗБРОЮ, ЯКАЯ МОЖА ЗАЦЯГНУЦЬ ВАЙНУ ЯШЧЭ НА ГОД ЦІ **БОЛЕЙ**.
МЫ ТУТ, КАБ УСТАВІЦЬ ПАЛКІ Ў КОЛЫ.
А ПОТЫМ, ЗУСІМ НЕЧАКАНА, ПАЧАЛАСЯ БОЙКА...
УТРЫМЛІВАЕЦЕ ГЭТЫЯ ДЗВЕРЫ ЛЮБОЙ ЦАНОЙ, ЛЕЙТЭНАНТ. ГЭТА НАШ АДЗІНЫ ВЫХАД АДСЮЛЬ.
ВЫ ГАТОВЫ, КАПІТАН?
БОЛЕЙ ЧЫМ. Я **СТАМІЎСЯ** СЯДЗЕЦЬ БЯЗ СПРАВЫ.


ТУТ ІХ АРСЕНАЛ І ПАРАХАВЫ СКЛАД, МЕНАВІТА ТАМ, ДЗЕ І ПАВІННЫ БЫЦЬ.
ДАДАМ БОЛЕЙ АГНЮ НАШАМУ ФЕЕРВЕРКУ.
ЗАСТАВАЙСЯ ТУТ І ЎСТАЛЮЙ НАБОІ, Я ПАЙДУ АГЛЯДЖУСЯ.
НЕ ПАТРАПСЯ.
ТЫ ВЕДАЕШ МЯНЕ ДАСТАТКОВА ДОБРА, КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ, ШТО НІХТО НЕ ЎБАЧЫЦЬ МЯНЕ, ПАКУЛЬ Я САМ ГЭТАГА НЕ ПАЖАДАЮ.
У ЛЕСЕ ЦІ НА АДКЫТАЙ МЯСЦОВАСЦІ, КАНЕШНЕ. АЛЕ Ў ЗАМКНЁНАЙ ПРАСТОРЫ ЯК ГЭТА?
Я БУДУ АСЦЯРОЖНЫМ, МАТУЛЯ.
<ГЭЙ ТЫ!>
<САЛДАТ.>
<СТОЙ!>
<ХТО ІДЗЕ?>
<КОНРАД ДЗІПЕЛ ФОН КЛІЕСТ, КАПІТАН УНУТРАНАГА АТРАДА ВАРТЫ.>
<МАГЧЫМА ТЫ РАСТЛУМАЧЫШ МНЕ, ЯК Я ЗМОГ УВАЙСЦІ Ў КРЭПАСЦЬ ЦЕРАЗ НЕАХОЎНЫЯ ДЗВЕРЫ?>
<Я… ЭМ… Я НЕ РАЗУМЕЮ, КАПІТАН.>
<ВЯЗІ МЯНЕ ДА СВАЙГО КАМАНДЗІРА, КАБ Я ЗМОГ ПАСТАВІЦЬ ЯГО ДА СЦЯНЫ І РАССТРАЛЯЦЬ.>
<Я НЯ ВЕДАЮ, ДЗЕ ЁН У ГЭТЫ ЧАС, СЭР.>
<ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ Ў СВАІХ КАЗАРМАХ, АЛЕ МАГЧЫМА, З ВУЧОНЫМІ Ў ГАЛОЎНАЙ ВЕЖЫ.>
<ЯНЫ ПРАЦУЮЦЬ ДА ПОЗНЯЙ НОЧЫ...>
<ТАДЫ Я ПАГУТАРУ З ІМІ.>
<АЛЕ Я НЕ МАГУ АДПУСЦІЦЬ ВАС, СЭР, ПАКУЛЬ НЕ ПАВЕДАМЛЮ СЯРЖАНТУ.>


<НЕ, ТАК НЕ ПАДЫХОДЗІЦЬ.>
ХЕХ, БУДЗЬ Я ПРОКЛЯТЫ.
ПАСТАЎЦЕ КУЛЯМЁТ НА ЛЕСВІЦЫ НА НАСТУПНЫМ ПАВЕРСЕ, СЯРЖАНТ.
ТАК, СЭР.
І ЗНАЙДЗІЦЕ ВЫГАДНУЮ ПАЗІЦЫЮ ДЛЯ АЛФАВІТА.
КАЛІ ТЫЯ ДВА БУДУЦЬ ПРАБЯГАЦЬ ПАБЛІЗУ, МЫ НАКРЫЕМ ІХ АГНЁМ.
ДЫК ШТО ГЭТА ЗА МЕСЦА, СЭР?
ЗАМАК ФРАНКЕН-ШТЭЙН.
БЯЗ ЖАРТАЎ, СЭР?
ЯК У ФІЛЬМЕ ЖУДАСАЎ?
МНЕ ТАК СКАЗАЛІ. А ЯШЧЭ БЫЛА КНІГА, РАДАВЫ.


<КАЛІ ЁН БУДЗЕ ГАТОВЫ, ДОКТАР? >
<ХУТКА, ГЕНЕРАЛ, ХУТКА.>
ДАЛЕЙ: ФРАНКЕНШТЭЙН СУПРАЦЬ ЧАЛАВЕКА-ВАЎКА!